## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### СЦЯПАН ПУЧЫНСКІ

Вядомым гаспадаром у Гайнаўскім павеце з'яўляецца Сцяпан Пучынскі з вёскі Тарнопаль. Вядзе ён звыш 25-гектаравую гаспадарку. Вопытны тарнопальскі гаспадар збірае 27 цэнтнераў жыта „Данькоўскае залатое", 270 цэнтнераў бульбы „Уран" і некалькі соцень цэнтнераў сена з аднаго гектара зямельных угоддзяў. Падсявае ён на адзін гектар 240 кілаграмаў НПК у чыстым складзе. Пад наглядам сельскагаспадарчага доследнага прадпрыемства ў Шэпетове вырошчвае селекцыйнае зерне, якое ідзе на аднаўленне збожжавых культур.

Працу на гаспадарцы механізуе пры дапамозе ўласнага трактара і ўсіх іншых сельскагаспадарчых машын: бульбакапалкі, снопавязалкі, касілкі, зграбалкі, двух- і пяцiскібовага плугоў.

Сцяпан Пучынскі гадуе дванаццаць кароў і многа свіней. У будучыні намераны гадаваць новую пароду авечак. У аборы гаспадар падключыў ваду, абсталяваў шматлікія прылады, якія значна аблягчаюць абслугоўванне хатняй жывёлы. На пасбішчы парабіў загарады для выпасу кароў, абсталяваў „электрычнага пастуха". Мае ён добрае сена з наднарвянскіх сенажацяў. Сіласуе траву, кукурузу, бурачанае лісце і такім чынам атрымлівае некалькі тон сочнай кішонкі на зіму. Сіласаваць корм пачаў ён яшчэ ў 1955 годзе, калі толькі некаторыя гаспадары задумваліся над пабудовай сіласаў.

Сцяпан Пучынскі адным з першых у ваколіцы пачаў механізаваць палявыя работы. Модныя былі тады конныя сельскагаспадарчыя машыны.

Багаты вопытам тарнопальскі гаспадар прадае дзяржаве 10—12 тон збожжа і столькі ж бульбы, 6—8 свіней, апрача таго 10—15 тысяч літраў малака ў год.

Найлепшы гаспадар з Тарнопаля з'яўляецца членам ЗСЛ. Выконвае грамадскую функцыю члена надзорчай камісіі пры ГС у Нараўцы.

За выдатныя поспехі ў сельскагаспадарчай прадукцыі і ўкараненне прагрэсіўных метадаў у апрацоўцы зямлі Сцяпан Пучынскі ўзнагароджаны медалем „1000-годдзя Польскай дзяржавы", Сярэбраным і Залатым Крыжам Заслугі, шматлікімі дыпломамі.

**Я. Цялушэцкі**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### НАЙБОЛЬШ ВУСАТЫЯ

Англічане вылічылі, што на твары мужчыны расце каля 25 тысяч валаскоў.

Сусветны рэкорд па даўжыні вусоў займае таксама англічанін. Даўжыня яго вусоў дасягнула 1 метра 12 сантыметраў.

### 100-ГАДОВЫЯ ЛЮДЗІ

На зямлі ёсць некалькі месц, дзе людзі жывуць даўжэй, чым звычайна. Каўказ — гэта адно з іх.

На ўсёй тэрыторыі СССР пражывае 19 тысяч чалавек ва ўзросце 100 і больш год. Амаль 5 тысяч з іх — каўказцы.

(ті)

(Працяг са стар. 1)

## СЯРОД САКОЛЬСКІХ РАБОЧЫХ

Яшчэ ад дырэктара-эканаміста даведваюся, што пабудова прадпрыемства каштавала 250 мільёнаў зл., а вартасць гадавой прадукцыі складае цяпер суму 285 млн. зл.

— Хацеў бы бліжэй прыгледзецца да вашай прадукцыі, — прашу дырэктара.

— Калі ласка, — гаворыць ён і праваднікам маім назначае інжынера Станіслава Бельскага — таксама нашага земляка з Сакольскага павету, з вёскі **Рагозін.**

— Цягнула мяне ў родныя старонкі, — гаворыць ён, — дык прыехаў.

У прадукцыйных цэхах вітае нас рэзкі аднастайны гул машын. Непрывычнаму чалавеку баляць ад яго вушы. Аднак цёпла тут і чыста. Пахне пілаваным дрэвам. Прадпрыемства абсталявана навейшымі машынамі, пераважна з ГДР і ФРГ. Ля аднаго з аўтаматаў знаёмлюся з **Лідкай Філановіч.** Яна яшчэ зусім маладзенькая. Дарэчы, сярэдні статыстычны ўзрост рабочага калектыву тут 21—22 гады. Лідка прафесіі навучылася ўжо ля станка, пры якім працуе ад 1972 года. Праца акордная, зарабляе 2000—2200 зл. у месяц.

Крыху далей аграмадны агрэгат, які ўтаматычна клеіць непрыдатныя кавалкі дрэва, каб далей пускаць іх у прадукцыю. Тут вітаюся з **Раманам Зенгелеўскім.** Ён аж з Кузніцы і кожны дзень даязджае ў Саколку. Закончыў прафесіянальную сталярскую школу ў Саколцы, зарабляе каля 3000 зл. у месяц.

**Тэрэса Маліноўская** раней працавала буфетчыцай у шудзялаўскім бары. На сакольскім прадпрыемстве абслугоўвае адзін са станкоў, а пасля працы вучыцца — рашыла закончыць будаўнічы тэхнікум.

— Зарабляю тут 2200—2300 зл. і нізашто не вярнулася б назад у бар.

Ля пульта, дзе аўтаматычна наносяць фарбу на аконныя рамы, сустракаем **Дануту Анджэеўскую.** Яна — мінулагодняя выпускніца Сакольскага агульнаадукацыйнага ліцэя. Пасля няўдачнага старту ў вышэйшую школу распачала працу ў бюро прадпрыемства. Аднак хутка пакінула кантору і пайшла на вытворчасць.

— І вам тут лепш? — пытаю яе.

— Так, — кажа яна, адрываючы позірк ад рознаколерных сігнальных лямпачак на рэгуліровачным пульце. Зарабляе яна 2600 зл. у месяц.

**Уладзіслаў Чаплінскі** — адзін з нешматлікіх прадстаўнікоў старэйшага пакалення рабочых сакольскага прадпрыемства. Раней працаваў у ЦПН. Столярам стаў на прадпрыемстве. Абслугоўвае адзін з аўтаматаў. Зарабляе каля 3000 зл.

І яшчэ знаёмлюся з **Альбінай Віргас,** якая пасля трагічнай смерці мужа вымушана была пракарміць 5 дзяцей ва ўзросце 7—18 гадоў. На прадпрыемстве абслугоўвае яна ГДР-аўскі станок для аўтаматычнага ўкручвання завесаў да акон.

— Гэта мая першая праца на фабрыцы, — гаворыць яна. — Спачатку я баялася нават рукой дакрануцца да гэтай машыны. А цяпер хаджу пры ёй, бы пры гаршках на кухні ва ўласнай хаце. Адно толькі бяда з даездам. Я жыву ў вёсцы Тарчоўцы, аж пад Кузніцай. Каб паспець на першую змену, вымушана ўставаць а 4-ай гадзіне раніцы. Дзеці астаюцца самі. Гэта мяне хвалюе, бо яны ўсе вучацца. Што аднак зробіш? Працаваць трэба.

Шмат людзей даязджае на работу ў сакольскую сталярню. Прадпрыемства патрабуе іх яшчэ больш, асабліва электрыкаў, механікаў, столяраў і іншых. Замясцовым гарантуе месца ў рабочых гасцініцах, а выдатным спецыялістам — службовыя і кааператыўныя кватэры.

Яно змяняе аблічча Саколкі. А неўзабаве яму ў кампанію прыбудзе другое буйнае прамысловае прадпрыемства — філіял беластоцкага „Спомашу". Тады рабочыя рады Саколкі павялічацца яшчэ больш.

**Віктар Рудчык**

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Баброўнікі Беластоцкага павету. Фота Я. Цялушэцкага.*

Пачатак на стар. 1

## УДУМЛІВА І СІСТЭМАТЫЧНА

лення Сельскагаспадарчай акадэміі. І так, павысіўся агульны ўзровень адукацыі ў нашым асяроддзі і гэта адразу вельмі карысна ўздзейнічала на працу нашай школы. Пашырэнне ведаў сярод дарослых — гэта і цяпер для мяне і іншых настаўнікаў з'яўляецца вельмі важнай галіной дзейнасці. Раней вялі мы лекцыі ў рамках праблемных курсаў у мясцовай арганізацыі Саюза сялянскай моладзі, а цяпер — у форме пашырэння ведаў па педагогіцы сярод бацькоў нашых вучняў. Такім чынам увесь час клапоцімся пра павышэнне інтэлектуальнага ўзроўню сяла, блізкія сувязі яго з ведамі і нашай школай.

— А ў самой школе?

— Перш за ўсё трэба было стварыць усім настаўнікам умовы для павышэння сваіх кваліфікацый. І ўжо пры мне яны закончылі найменей настаўніцкія студыі. І цяпер у нас ёсць спецыялісты па польскай і беларускай мовах, гісторыі, біялогіі і хіміі, геаграфіі, матэматыцы, класах I—IV. Праўда, не хапае нам спецыялістаў па фізічнаму выхаванню, музыцы і малюнках. Але, калі ёсць высокі агульны ўзровень падрыхтоўкі настаўнікаў, дык і з гэтымі прадметамі не маем цяжкасцей. Нашыя фізкультурнікі заўсёды займаюць вядучыя месцы ў спаборніцтвах у гміне і даходзяць да павятовых спаборніцтваў, а гэта ва ўмовах, калі ў класе ёсць 7—10 вучняў, не так ужо і дрэнна. Усё гэта дасталася нам нялёгка і не адразу. Спатрэбіліся цэлыя гады настойлівых намаганняў, каб школа выхавала сабе такіх настаўнікаў. І гэтай працы мы не спыняем і ў сучасны момант: займаемся самаадукацыяй у рамках педагагічнага савета, удзельнічаем у Настаўніцкім радыё-тэлевізійным універсітэце. У кожнага з нашых настаўнікаў ёсць глыбокае пачуццё асабістай адказнасці за вынікі сваёй працы.

— Істотная справа — гэта кшталтаванне асабовасці вучня і яго зацікаўленняў...

— Зразумела, без гэтага немагчымы правільны выхаваўчы працэс. Таму, наведваючы ўрокі нашых настаўнікаў, я заўсёды асаблівую ўвагу звяртаю на падрыхтоўку настаўнікаў да заняткаў, на метад і вынікі, на развіванне ў дзяцей зацікаўлення ведамі. Мы добра забяспечаны аўдыя-візуальнымі дапаможнікамі, і таму звяртаю ўвагу на іх поўнае выкарыстанне на занятках. У час побыту дзіцяці ў нашай школе мы не толькі сочым за яго зацікаўленнямі, здольнасцямі і схільнасцямі, але імкнемся іх адпаведна развіваць. Калі ўжо набліжаецца час заканчэння школы, разам з бацькамі абмяркоўваем напрамак далейшай вучобы нашага выхаванка. Заахвочваем яго паступаць у такую школу, якая яму найбольш адпавядае.

На заканчэнне варта дадаць, што іменна такая ўдумлівая і сістэматычная праца з'яўляецца падставай выхаваўчых дасягненняў скромнай — у ёй навучаецца ўсяго 84 вучні — вясковай школы ў Кнарыдах.

**Размаўляў Мікалай Гайдук**

## Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXX

**Феміністычная тэматыка і лірыка кахання.** Разглянем апошнюю катэгорыю вершаў, звязаных з мацярынствам. У яе ўваходзяць вершы, у якіх паказаны драматычныя, а часам і трагічныя моманты, звязаныя з цяжарнасцю і нараджэннем дзіцяці: „Апусціўшы густыя расніцы...", „Шчасцем яна аж да краю", „Пракляцце вагітнай", „З енкам дзіцё ты раджаеш", „Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш", „Смертию смерть поправ", „Тым вянкі суворай славы", „Белы крыж, пліта, пад ім — магіла".

Не ўсе вышэй названыя вершы змясціў Багдановіч у цыкле „Каханне і смерць", але яны належаць да адной і той жа тэмы.

У вершы „Апусціўшы густыя расніцы" гаворыць паэт аб першых адзнаках цяжарнасці. Не гэта аднак з'яўляецца галоўнай думкай твора. Праяўляецца яна ў сумненнях мужчыны-бацькі, які думае аб тым, што ён будзе прычынай мучэнняў, а можа і смерці сваёй жонкі.

„Апусціўшы густыя расніцы... сказала яна:  
„Я — ўжо маці". І твар зарумяніў ёй сорам.  
А душа мне гаворыць: на смерць, на мучэнні ты мной аддана.  
І ўстае гэты шэпт мне дакорам..."

Маем тут дачыненне з праявам пэўнай духовай паталогіі героя. Наогул муж, даведаўшыся аб цяжарнасці жонкі, не думае аб мучэннях, а тым больш аб смерці. Але можа здарыцца, што чалавек з павышанай узбуджанасцю, з хваравітым уяўленнем можа думаць і так як гэта бачым у Багдановіча.

Падобны аспект мацярынства прадстаўлены таксама ў вершы „Шчасцем яна аж да краю". Тут таксама паэт гаворыць аб перспектыве мучэнняў пры нараджэнні дзіцяці.

Згушчаны драматызм выступае ў вершы „З енкам дзіця ты раджаеш". У сэнсе настрою верш гэты з'яўляецца прадаўжэннем двух вышэй прыведзеных твораў. У папярэдніх вершах гаварылася аб тым, што чакае жанчыну пры нараджэнні. У вершы „З енкам дзіцё ты раджаеш" гаворыць аб самым працэсе родаў і аб іх трагічным выніку — аб смерці.

„Шчыра мяне ты любіла,  
Шчыра цябе я кахаў,  
Але давёў да магілы,  
Сам на мучэнні аддаў".

Наступны верш „Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш" дае цікавы малюнак фізічнай знямогі маці, якая нарадзіла дзіця. Аўтар паказвае працэс упадку фізічных сіл жанчыны, працэс, які даводзіць яе да смерці. Дасканала рысуе партрэт, твар, аблічча асуджанай лёсам, а хутчэй дзіцём, на смерць. Верш гэты цікавы тым, што другая яго частка з'яўляецца філасофскім роздумам над парадаксальнай, а па сутнасці глыбока дыялектычна-лагічнай з'явай, якая праяўляецца ў тым, што новае жыццё трэба акупіць смерцю старога жыцця. Аўтар знаходзіць аналогію паміж чалавекам і раслінай у вечным працэсе ўмірання і нараджэння.

„Так крохкая, пушыстая багатка  
Пад ветрам аблятае, каб магло  
Яе насенне узрасці і кветнуць,  
І толькі кволае сцябло пасля  
Гаворыць аб жыцці, дзіцям адданым".

І сапраўды смерць старога — гэта ўмова новага жыцця. Гэты закон не можа абыйсці ні чалавек, ні звер, ні расліна.

Загаловак „Смертию смерть поправ" узяты Багдановічам з рэлігійнага лексікона, звязанага з пахаваннем чалавека. Выступае ў ім тая самая, што і раней тэматыка — тэматыка смерці маці пры нараджэнні дзіцяці. І як бы падсуманаваннем ўсіх вершаў аб смерці маці з'яўляецца верш „Белы крыж, пліта, пад ёй—магіла". Загаловак твора дасканала характарызуе яго тэматыку. Каментарыі тут непатрэбны.

Канчаючы разважанні аб вершах Багдановіча, звязаных з трагічным аспектам мацярынства, не можам не звярнуць увагі на верш „Тым вянкі суворай славы". Твор гэты, хаця і прысвечаны той самай, што і ў іншых вершах тэме, рашуча адрозніваецца ад папярэдніх вершаў. Розніца тут у стылістыцы. Усе папярэднія вершы былі ўтрыманы ў нормах элегіі. Гэты верш належыць да оды. Паэт у смерці маці бачыць элементы гераізму, які заслугоўвае ўсхвалення, культу, песні.

„Тым вянкі суворай славы,  
Што за край свой у баю  
Жрэбі вынулі крывавы,  
Напаткалі смерць сваю.

Ды слаўней вагітнай доля, —  
Ў сэрцы маючы любоў,  
За дзіцё зазнаці болі,  
За дзіцё праліці кроў.

Слава тым, хто сілу мае  
Смерць, не дрогнуўшы, спаткаць,  
Хто ў мучэннях памірае,  
Каб жыццё дзіцёнку даць!"

І так гераізм маці ставіць Багдановіч вышэй, чым гераізм на полі славы, на полі змагання за айчыну.

Нельга не прыхіліцца да гэтага гімну, праспяванага паэтам у чэсць святой істоты — маці.

(Працяг са стар. 3)

# НЯНЕЧКА

Слізнеўскія, ізноў, калі іхняя ненаглядная, хатняя помач, разумеецца, мужчынскую кампанію госціць, альбо свята якое спраўляе, прывыклі ўсёй сям'ёю з хаты выходзіць — у парку на лавачцы адседжвацца.

З усіх маіх знаёмых толькі адным Трэзвадумскім у гэтых адносінах пашанцавала. Скарб, а не дзяўчына на іхнюю долю выпала.

Не прайшло і двух тыдняў, калі Трэзвадумскі ўжо навучыўся адмыслова лоск на падлогі наводзіць і дываны выбіваць да апошняй пылінкі, паспяваючы пры тым перамыць пасуду, бульбы начысціць і яшчэ, у чарзе пастаяўшы, у хату купіць што трэба.

Трэзвадумская ж не ачухалася нават, калі стала выдатным мастаком кулінарыі, спецыялістам у мыцці рознай бялізны і не абы-якім знаўцам у галіне апекі над дзіцём. І ўсё гэта пасля працы...

Інтэлектуальна раслі яны, бо Галінка іхняя, як яны яе пяшчотна называлі, тэлебачанне гледзячы і ўсе газеты і журналы гартаючы, трымала іх у курсе ўсіх падзей і навінак.

Вось вазьмі і раскусі, што ды як. Адгадай, дзе ўзяць і якую выбраць. Таму мы, міленькія, і вырашылі прымаць, якая надарыцца. І ў далейшым на шчасце адно толькі спалягацца.

Дзяўчынка яна была маладзенькая яшчэ, прыгожая. З'явілася з адным чамаданчыкам, дзе як сваё багацце ўладкавала і адразу за работу так і ўзялася.

Я, вядома, каньячок у гараж вынес. Настойка толькі ў буфеце на прыманку засталася...

Тая аднак увагі зусім не звяртала.

Ды і мяне самаго не заўважала амаль. Аж крыўдна. Я ж яшчэ, здаецца, не стары такі.

Усё толькі мыла, варыла, скрабла, чысціла, дзіцём займалася — быццам бы толькі ў гэтым і было ўсё яе прызванне.

Дзіўна, ведаеце, неяк... Звольнілі мы яе, зразумела.

Ну бо як жа інакш? З кім не раішся, каму не апішаш, той адразу выразна пальцам у лоб тыкае.

Дурны і той адразу заўважыць, што іншая яна нейкая, нянечка тая нашая, не такая, як усе — ненармальная, адным словам.

Дзе ж ты такую трымаць будзеш?

**Ларс**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЕНАКОСНАЯ







— Ягудонькі-журауліны,
Ягудонькі-журауліны,
Бодай ветэ нэ зродiлі,
Бодай ветэ нэ зродiлі,
Бодай ветэ нэ зродiлі,
Куды ветэ мэнэ ўвэлі?
— Нэ мы тэбэ сюды ўвэлі,
Нэ мы тэбэ сюды ўвэлі,
Увэла тэбэ тэмна ночка.
Увэла тэбэ тэмна ночка,
Увэла тэбэ тэмна ночка
І медвіна горэлочка.
І медвіна горэлочка,
І медвіна горэлочка,
Ясенькова бела ручка.

Ад Феадосії Маліш 1900 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія Гайнаўскага павету, запісаў 24 верасня 1974 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

Сёлетняя ўборка кораняплодаў ужо за намі. Вымагала яна ад людзей многа поту. Уборка закончылася, але на гэтым не канец. Найбольш клопатаў робіць бульба. Ёсць сігналы, што не ўсюды бульба добра перахоўваецца. Дзеля гэтага неабходна кантраляваць як капцы, так і склепы. Трэба ведаць, што бульба, якая не можа даўжэй ляжаць, надаецца на параванне і квашэнне. У большасці гмін нашага ваяводства ёсць т.зв. „парнікавыя калюмны“ і робяць гаспадарам паслугі ў галіне паравання. Апрача таго, пункты гмінных спулдзельняў робяць абмен бульбы на бульбяны суш. Скарыстанне з адной з форм перапрацоўкі бульбы не дазволіць марнавацца гэтаму корму.

## ГАСПАДАРЧЫЯ СПРАВЫ

Дрэнная пагода была прычынай, што ў ваяводстве гаспадары не выканалі амаль на 200 тыс. гектараў ворыва. У сувязі з гэтым сельскагаспадарчая служба інфармуе, што можна прымяняць мінеральныя ўгнаенні нават цяпер, зімою, пад ворыва, а таксама на высокіх лугах. Вапнаваць палі можна таксама і зімою, калі снег не прыкрывае зямлі.

Калі ўжо мова аб мінеральных угнаеннях, дык неабходна ведаць, што восенню і зімою на іх зніжваюцца цэны. І так, у лістападзе былі яны найніжэйшыя, а ў студзені цэны на іх будуць зніжаны на 10 прац. На „баніфікатах“ у мінулым годзе нашы гаспадары „зарабілі“ 61 мільён злотых.

Вопытныя людзі гавораць, што добры гаспадар ужо цяпер павінен думаць пра вясну.

У свабодны час трэба паглядзець азіміну і рапак і на аснове актуальнага стану падрыхтаваць адпаведны запас мінеральных угнаенняў. Трэба таксама падлічыць, колькі насення трэба будзе мець вясною. Гаспадары Беласточчыны восенню паспелі засеяць 15 тыс. гектараў зямлі, частка пасеваў вымакла, а пэўныя затраты паўстаюць штогод зімою.

Важнай справай у гаспадарцы з'яўляецца дапасаванне колькасці корму да колькасці жывёлы. Вельмі важным папаўненнем у гэтай галіне з'яўляецца бурачаны жам (выслодкі) з лапскай цукроўні. Дагэтуль нашы гаспадары адбіралі толькі невялічкую частку жаму ў параўнанні да масы прадукаваных буракоў. У гэтым сезоне ў іх распараджэнні 100 прац. жаму. Практыка даказвае, што нашы гаспадары не выкарыстоўваюць адпаведна ў харчаванні жывёлы саломы. А тым часам вядомы спосабы паляпшэння і павелічэння кармавой прыдатнасці саломы.

У падліках колькасці корму трэба ўлічваць таксама канцэнтрыраваны корм. Ваяводства атрымала ў гэтым годзе крыху большы надзел. Зараз у продаж паступілі высокабялковыя канцэнтраты. Пры іх дапамозе гаспадары дамашнім спосабам могуць рыхтаваць канцэнтрыраваны корм.

А калі ўжо закончыцца накопліванне корму, астанецца прызадумацца, як па-гаспадарску і найбольш эфектыўна іх выкарыстаць у харчаванні дабытку.

**А. Карпюк**

## ЁСЦЬ ЗА ШТО ПАХВАЛІЦЬ

Кіёск „Рух“ № 81 знаходзіцца ў цэнтры Гайнаўкі, на скрыжаванні вуліц М. Бучка і 1 Мая, насупраць яго рэстаран „Гайнавянка“ і крыху збоку аўтобусны прыпынак ПКС. У ім згодна працуюць на змену шматгадовы кіяскёр Надзея Топур (на здымку), Марыя Ліцкевіч і ад нядаўна Кацярына Кірылюк. Розных тавараў прадаюць яны ў месяц на суму 180-190 тысяч злотых. Маглі б прадаваць яшчэ больш, каб толькі было дзе змясціць больш тавараў. Нічога тады дзіўнага, што вопытныя прадаўшчыцы мараць аб новым павільёне на гэтым месцы.

Ля кіёска заўсёды людна. Многія турысты, якія наведваюць Гайнаўку з яе прамысловымі прадпрыемствамі ды Белавежскі парк, пушчу і музей, ахвотна купляюць тут усялякую дробязь.

У гэтым кіёску купляюць шмат кніжак. Гэта нічога, што зараз жа за вуглом мураванкі ёсць кнігарня. Цікавыя кніжкі раскупляюць на працягу аднаго дня. Сярод іх шмат дзіцячых кніжак. Усе выдавецкія навінкі паказаны тут у вітрыне за чыстымі вялікімі шыбамі. Кіяскёры прадаюць таксама нямала паштовак, асабліва каляровых.

Прадаўшчыцы з кіёска „Рух“ № 81 прадаюць, аднак, перш за ўсё многа газет і часопісаў. Для прыкладу, „Газеты Беластоцкай“ — 350, а ў суботу нават 500 экземпляраў, „Трыбуны Люду“ — 50-60, а ў канцы тыдня і 90 экземпляраў.

Мы наведалі гайнаўскі кіёск № 81 у пятніцу. калі ў продаж паступае свежы нумар „Нівы“. Пані Надзея Топур атрымала 92 экземпляры „Нівы“.

— Ці ўсе экземпляры гэтага тыднёвіка на беларускай мове зможаце прадаць? — звяртаемся да кіяскёра.

— О, так, на „Ніву“ ў нас ёсць пастаянныя пакупнікі і таму не маем повада, каб хваляваца наконт яе продажу. Мы былі б вельмі задаволены, каб так куплялі ў нас іншыя газеты і часопісы.

**Я. Цялушэцкі,**
Фота аўтара



*Прадаўшчыца з кіёска „Рух“ № 81 у Гайнаўцы Надзея Топур за работай.*

(Працяг са стар. 2)

## Сямейная ўспамога

жа — калі споўнілася яму 65 год, або з'яўляецца ён інвалідам.

Не прыслугоўвае ўспамога, калі муж або жонка працаўніка атрымоўвае пенсію, зарабляе больш чым палавіну найніжэйшай зарплаты ў грамадскай гаспадарцы, знаходзіцца ва ўстановах грамадскай апекі, у турме, або пражывае заграніцай.

### ВЕЛІЧЫНЯ СЯМЕЙНАЙ УСПАМОГІ

Сямейная ўспамога выплачваецца ў суме асноўнай або павышанай. Гэта залежыць выключна ад узроўню даходаў, якія прыпадаюць на аднаго члена сям'і. Успамога выплачваецца ў аднолькавай суме — незалежна ад прадпрыемства або ўстановы, у якой чалавек працуе.

Ад 1 жніўня 1974 г. да 31.VII.1975 г. належыцца пры даходах да 1000 зл. на асобу на адно дзіця 110, на двое дзяцей — 260, на трое — 600 зл., а на чацвертае і наступнае — 360 зл. На жонку, якая не працуе і не мае сваіх даходаў, калі не мае дзяцей, або выхоўвае адно дзіця ці двое дзяцей — 70 зл., а калі выхоўвае трое або больш дзяцей, якія маюць права да сямейнай успамогі — 170 зл.

Пры даходах ад 1001 да 1400 зл. на асобу на адно дзіця належыцца 70 зл., на двое дзяцей — 175 зл., на трое — 515 зл., а на кожнае наступнае — 360 зл. На жонку прыслугоўвае ўспамога, як і пры даходах да 1000 зл.

Калі даход на аднаго члена сям'і перавышае 1400 зл., выплачваецца на адно дзіця 70 зл., на двое — 175 зл., на трое — 310 зл., а на кожнае далейшае — па 150 зл. На жонку, якая выхоўвае не больш чым двое дзяцей, належыцца 40 зл., а калі мае трое або больш дзяцей — 90 зл. Гэтыя апошнія нормы абавязваюць таксама працаўнікоў, якія зарабляюць менш, чым 1400 зл. на аднаго члена сям'і, але плоцяць пазямельны падатак за гаспадарку большую, чым 0,5 га зямельных угоддзяў, або плоцяць дзяржаве падатак за выконванне рамясла.

Пасля 31.VII.1975 г. сямейныя ўспамогі будуць выплачвацца на іншых, больш карысных для працаўніка асновах.

### УМОВЫ, У ЯКІХ ПРЫСЛУГОЎВАЕ ПРАВА НА СЯМЕЙНУЮ ЎСПАМОГУ

Права на сямейную ўспамогу атрымоўвае працаўнік, калі прапрацуе на адным прадпрыемстве тры месяцы. Аднак час працы на папярэднім прадпрыемстве бярэцца пад увагу, калі перарыў у працы быў меншы, чым тры месяцы.

Калі з віны працаўніка развязваецца з ім умова з неадкладным выкананнем, права на сямейную ўспамогу прыслугоўвае яму толькі пасля прапрацавання 6 месяцаў.

Не выплачваецца сямейная ўспамога працаўніку за месяц, у якім ён не быў на рабоце без апраўдання. Гэта адносіцца таксама да нядзелі і святочных дзён, калі з распарадку, устаноўленага на прадпрыемстве, вынікае абавязак працы. Аднак і ў гэтым выпадку не ўстрымоўваецца выплата ўспамогі, належнай дзіцяці — калеку, якое патрабуе сталай апекі, або пасля 16 гадоў было залічана да I або II інваліднай групы. Гэткія дзеці атрымліваюць апрача сямейнай успамогі дадатак 500 зл. у месяц.

Не ўстрымоўваецца таксама выплата сямейнай успамогі, калі на аснове закону або пастановы суда ўспамога выплачваецца не працаўніку, а яго жонцы або апекуну дзіцяці.

Не выплачваецца сямейная ўспамога таксама працаўніку за месяц, у якім карыстаўся з бясплатнага водпуску больш чым 15 дзён, а таксама за месяц, у якім звольнілі працаўніка з яго віны з неадкладным выкананнем.

Аднак матка, якая карыстаецца з бясплатнага водпуску ў сувязі з апекай над малымі дзецьмі, атрымоўвае сямейную ўспамогу на працягу ўсяго бясплатнага водпуску.

**В. Склубоўскі**

## НЕАДКЛАДНА

Некалькі год таму, калі з вёскі **Залукі**, што ў Беластоцкім павеце, сядзіба грамадскай рады была пераведзена ў вёску Каралёў Мост, адначасова абсталяваўся там і цэнтр аховы здароўя. Гэта не мела б большага значэння, калі б не тое, што вакол Каралёвага Маста жыве некалькі соцень насельніцтва, а вакол Залукаў у вёсках Пясчанікі, Навасёлкі, Радулін, Баркі налічваецца звыш 2 тысяч жыхароў. Толькі дзякуючы захадам мясцовага актыву ў павятовых і ваяводскіх установах, а нават у Варшаве, удалося ўтрымаць у Залуках пункт здароўя, у якім пастаянна працуе медсястра і два разы ў тыдзень пацыентаў прымае лекар. У прыёмныя дні сюды наплывае столькі патрабуючых лекарскай дапамогі людзей, што доктар проста не ў сіле іх усіх прыняць. Тым часам у чатыры дні прыёму ў Каралёвым Мосце з'яўляецца да лекара ўсяго па некалькі чалавек. Такі стан не можа прадаўжацца бясконца, і ўрэшце трэба, каб гмінныя ўлады ў Гарадку і павятовыя ў Беластоку **неадкладна** павялічылі час працы лекара ў Залуках да трох або нават чатырох дзён у тыдзень. (іс)

## ЖОРСТКАСЦЬ

Стаяла цёмная ноч. Штукоўскі моцна спаў, захутаўшыся ў коўдру і раўнамерна пасвістваючы зубам.

Нечакана зазваніў тэлефон.

Штукоўскі адкрыў вочы, спусціў худыя ногі на падлогу, уздрыгнуў ад начной свежасці і ў адных трусах пабег да апарата.

— Так? — спытаў ён трубку незадаволеным голасам.

Спачатку яна таямніча маўчала, а потым нахабна сказала:

— Здароў!

— Здароў, — збянтэжана адказаў разбуджаны.

— Усё дрыхнеш? — працягвала трубка.

— Дрыхну, — уздыхнуў Штукоўскі.

— Ну і чорт з табою, — сказаў далёкі голас і пераўтварыўся ў гудкі.

Штукоўскі здзіўлена пастаяў ля апарата, вылаяўся і вярнуўся да ложка.

— Хуліганства! — бурчаў ён, закурваючы. — Саджаць іх усіх трэба! На пятнаццаць год!

Ён доўга круціўся з боку на бок, крактаў і кашляў проста ў жончына вуха і ніяк не мог заснуць. Тады Штукоўскі ўстаў, зняў трубку і набраў першы трапіўшыся нумар.

— Так? — сонна спыталі на другім канцы проваду.

Не ведаючы, з чаго пачаць, Штукоўскі ўрэшце сказаў:

— Здароў!

— Здароў, — збянтэжана адказалі яму.

— Усё дрыхнеш?

— Дрыхну, — уздыхнуў голас.

— Ну і чорт з табою, — сказаў Штукоўскі, націснуў рычаг і са спакойным сэрцам пайшоў дагледжваць сны.

**Міх. Казоўскі**



# НІЎКА



### У ТЭАТРЫ

Маладая спявачка пытаецца ў дырэктара тэатра:

— Пан дырэктар, як вы знаходзіце маё ўчарашняе выступленне? Ці не праўда, мой голас запаўняў усю залу!

— Але! Я нават заўважыў, што некаторыя гледачы ўставалі і выходзілі з залы, каб уступіць яму месца.

### З ВЕНГРЫІ

Ковач прагульваецца на парку з дзіцём. Да яго падыходзіць Сабо.

— Які ў вас цудоўны сын! Вочы, нос, рот, валасы — усё ваша! Ну проста прыгажун, а не хлопчык. Дарэчы, пазычце мне дзесятку да першага...

— Не пазычу, — холадна гаворыць Ковач. — Гэта дзіця маёй жонкі ад яе першага мужа.

### МІНІВЕРШЫ

### ГАДЗЮКА І КАЗЯЎКА

Перад Казяўкай Гадзіна
дрыжала:
Была Казяўка не без джала.

**Ул. Лявіцкі**

### ГУМАР З

### АДКАЗ ПА ШЧЫРАСЦІ

Прыслалі дзяншчыка афіцэру, а той быў вельмі злы і зараз жа:

— Почему это тебя, такую гадость, ко мне прислали? Разве там не было лучших?

А дзяншчык яму і адказвае па шчырасці:

— Добрых, ваша благароддзе, і паслалі добрым, а мяне да вас, і я ніяк не вінаваты, ваша благароддзе.

*— Ты чуў, што шэйха Абдулу асудзілі за двоежэнства: у яго два гарэмы.*



...Ён можа ўзяць любую перашкоду, каб паставіць яе перад другім.

...Як многа ён не ведаў з таго, што разумеў!

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч, а таксама Зіны Марозавай і Ірэны Якацюк змяшчаем песню з рэпертуару Эдварда Гулевіча*



### САМАЎПЭЎНЕНАСЦЬ

— Мама, а я сёння напісаў сачыненне і ніводнай памылачкі не зрабіў! — пахваліўся сын, прыйшоўшы са школы.

— Адкуль ты так упэўнены?

— А я напісаў і сам праверыў...

### УМОВА

Перад разводам жонка крычала мужу:

— Вылюдак, вярні мне маю загубленую маладосць!

— Добра, — адказаў муж, — бяры, ды толькі, каб я ніколі больш цябе не бачыў.

### ЗАБЫЎ

Да зубнога лекара прыходзіць пацыент.

— Сядайце!

— Выбачайце, доктар, калі можна, я зайду іншым разам.

— Вы што, забылі дома грошы? — пытае лекар.

— Не, зубы!

### ЯРМОЛАЎ АПЕТЫТ

Спаткаў Раман у горадзе Ярмолу
(Год дваццаць не страчаліся яны!)
І кажа: „Што ты, браце, невясёлы?“
„О, не пытайся... Непрыемнасці адны:
І хата цесная, і зарабляю мала —
Вядома, склаўся лёс няўдала...
То, можа б, ты памог уладкавацца
На прыбытковую якую працу?..“
„Што за размова!
Дам і пасаду, аклад талковы, —
І ў той жа дзень Раман падпісвае загад,
Прызначыўшы яму намзагаўскі аклад
У падначаленай канторы:
— Працуй, Ярмола, без бяды і гора...“
„Збавіцель мой! Да скону сваіх дзён
Табе я за паклонам буду біць паклон...“
Ярмола працаваў (і не зяваў):
Ён, карыстаючыся дабратой Рамана,
Сваім уласніцкім і спажывецкім планам
Паціху ход даваў...
Паўгода — і Ярмола — заг:
Аўтарытэт, размах,
Ды і салідная зарплата!..
Яшчэ паўгода — і ў Ярмолы „хата“,
Прасторная кватэра новай планіроўкі,
І ў кватэры розныя абноўкі...
Ярмолу усяго хапала —
Жыві, працуй і ўсё там!
Але ж адна спакою думка не давала,
І ён употай
Даносы піша ўпраўляючаму трэста:
„Заганы ў канторы маюць месца...
Кантора сядзе з планамі на мель...
Раман патрабавальны не заўжды...“
Што ж, апетыт прыйшоў у час яды —
Ярмола на Раманаў цэліцца партфель...
...І для Рамана зразумела стала,
Чаму Ярмола кляў свой лёс няўдалы.

**Васіль Маеўскі**

### З ЖЫЦЦЯ ВЫШЭЙШЫХ СФЕРАЎ



*— Ці яшчэ вы цвердзіце, што ваша галерэя прадкаў даўжэйшая за маю?*

## КУР'ЁЗЫ

### ЯК ЦЯЖКА БЫЦЬ ВЫСОКАЙ

З гэтага часу імя 19-гадовай амерыканкі Сэндзі Ален з горада Шэлбівіл (штат Індыяна) належыць гісторыі... і яна зойме законнае месца... на старонках „Кнігі неверагодных сусветных рэкордаў“, якая выдаецца ў Лондане.

Справа ў тым, што рост Сэндзі роўны 2 метрам 26,89 сантыметра і яна афіцыйна прызнана самай высокай прадстаўніцай слабога полу на нашай планеце.

Сэндзі давялося шмат пахваляваца і нават падрасці на 0,793 сантыметра. І ўсё таму, што Сэндзі з неўласцівай прадстаўнікам Новага Свету лёгкадумнасцю не магла і ўявіць сабе, адсылаючы ў Лондан завераное ўрачамі медыцынскае пасведчанне, што недзе ў далёкай Індыі жыве яе „небяспечная“ канкурэнтка, рост якой да апошняга міліметра адпавядае росту Сэндзі.

Неверагодна, але Сэндзі за некалькі дзён змагла падрасці на 0,793 сантыметра і стала адзінай уладальніцай сусветнага рэкорда. Тут адыграла ролю, напэўна, чыста амерыканскае жаданне стаць самай-самай...

Цяпер, калі ўсе хваляванні ў мінулым, Сэндзі можа прызнацца, як нялёгка быць самай высокай дзяўчынай планеты. Бо толькі на шыццё адной сукенкі ёй неабходна купіць 5,5 метра тканіны.

Праўда, Сэндзі больш хвалюють чыста маральныя меркаванні, зразумелыя ўсім дзяўчатам свету. „Як толькі маладыя людзі пераконваюцца, што мой рост хоць крышку перавышае іх уласны, яны не спяшаюцца прызначаць мне спатканні“, — неасцярожна паскардзілася нядаўна Сэндзі карэспандэнту агенцтва Рэйтэр.




**Куды дзяваюцца адпушчаныя грахі?**